# Ніва

БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 6 (780) ГОД XVI БЕЛАСТОК 7 ЛЮТАГА 1971 г. ЦАНА 60 гр.


НЕ ТОЛЬКІ ТЭХНІЧНАЕ ДАСЯГНЕННЕ




Вада для горада. Уласна кажучы, справа адна з найважнейшых, а ўсё ж застаецца яна не раз на заднім плане. Што ж, водазабор — гэта не фабрыка, вада ж цячэ амаль сама. Сама? Дваццаць мільёнаў злотых каштавала будова новага водазабору для Гайнаўкі. Была аўтаматызавана ўся прадукцыя гэтай гіганцкай фабрыкі вады, прыдатнай для піцця. Усюды тут навейшая, сучасная тэхніка. Ну, і людзі. Такім чынам, 5 снежня 1971 г. праблема вады для Гайнаўкі была вырашана. А вада ж шмат год была вялікай праблемай для Гайнаўкі. Горад жа рос, разбудоўвалася прамысловасць, узнікалі новыя жыллёвыя кварталы. Аб вадзе ўсё больш дыскутавалі жыхары.

СТАРОЙ КРЫНІЦЫ...

...ужо даўно перастала хапаць, аднак дыскусія аб будове новай крыніцы вады канчалася ў той момант, калі пачыналі лічыць залатоўкі. На камунальную гаспадарку ніколі не было іх замнога. Аднак павятовыя і гарадскія ўлады Гайнаўкі змагаліся.

Нарэшце, 1 чэрвеня 1967 года пачалася будова. Спадзяваліся закончыць яе не раней 1970 года. І так гэты тэрмін усе лічылі амаль нерэальным. Вядома, камунальная інвестыцыя. Аднак для гарадскіх улад, для камітэта партыі стала яна найважнейшай інвестыцыяй. Яны лічылі, што тэрмін пабудовы водазабору і так завялікі, горад не мог чакаць, хоць са старога водазабору выціскалі, што маглі.

Лёгка сказаць, але як выканаць, калі не хапае людзей, калі дакументацыю даводзіцца амаль выдзіраць з рук у праектантаў, калі не хапае труб, а абсталяванне прататыпнае... Пад лозунгам «усё для вады» былі мабілізаваны калектывы выканаўчых прадпрыемстваў, пастаўшчыкоў абсталявання, праектантаў. 6 жніўня 1970 года будаўнічыя сказалі: «Мы скончылі». Можна было прывесці ў дзеянне тэхналагічнае абсталяванне, найбольш сучаснае ў краіне. Але — прататыпнае; тут, у Гайнаўцы, правяралі яго, было крыху рызыкі, аднак гайнаўчане

Працяг на стар. 4



*Алесь Барскі на аўтарскай сустрэчы.* *Фота Цаф — Сянько*

XV ГОД

## ПРА СОНЦА І АТМАСФЕРУ

Сёння прапануем гутарку з Аляксандрам Баршчэўскім.

— Як даўно ты звязаўся з БГКТ?

— Ад першых месяцаў яго існавання.

— Я хачу звярнуцца цяпер да гэтай часткі тваёй душы, якую назваў ты Алесем Барскім. Якую ролю ў яе кшталтаванні адыграла БГКТ?

— Без сонца не зацвіце ніводная кветка, без цяпла і мазолістай працы агародніка ніхто не пабачыць прыгажосці ружы. У маіх скромных літаратурных імкненнях гэтым сонцам аказалася менавіта Беларускае грамадска-культурнае таварыства, ролю руплівага агародніка прызначаю я яго газеце, тыднёвіку «Ніва», а жыццетворчае цяпло — гэта спрыяючая, апякунчая атмасфера, якая ўзнікла ў выніку існавання і дзейнасці БГКТ і «Нівы». І, калі ласка, не гаварыце, што я, бы жанглёр на сцэне, раскідаю пустыя камплементы. Мае літаратурныя поспехі, калі яны ёсць, немагчымыя былі б без БГКТ і «Нівы».

— Ці гэтыя твае меркаванні можна расшырыць на ўвесь літаратурны беларускі рух у Польшчы?

— Несумненна, так. Я перакананы ў тым, што без апякунчага ўздзеяння БГКТ і «Нівы», без умоў, якія яны стварылі, не маглі б мы сёння гаварыць пра беларускі літаратурны рух у Польшчы, не маглі б мы падсумоўваць яго дасягненняў.

— Менавіта, як ты ацэньваеш гэтыя дасягненні?

— Статыстычныя вынікі нашага літаратурнага руху не раз ужо прыводзіліся на старонках «Нівы». Прачытай хаця б інтэрв'ю сакратара Галоўнага праўлення БГКТ, тав. Янкі Зенюка, якое нядаўна друкаваў наш тыднёвік.

— Калі ўжо спасылаешся на гэтае інтэрв'ю, дык хачу звярнуць тваю ўвагу на крытычныя выказванні сакратара ў адрас нашых літаратараў.

— Так, ведаю гэта. Ён мае рацыю. Я таксама, чытаючы творы нашых аўтараў, маю такое ўражанне, быццам нам усім вочы перамясціліся з-пад ілба на патыліцу і мы безупынна, як зачараваныя, глядзім назад, у сваё мінулае. А нават больш. І вершы, і апавяданні, і сцэнічныя творы вельмі ж пахнуць у нас наіўнай дэкларатыўнасцю, з іх, як шыла з мяшка, вылазіць фельетонная, публіцыстычная манера, не хапае ім новых, болей сучасных вецяркоў.

— Значыць, ты хацеў бы патрабаваць ад сваіх сяброў па пяру болей глыбокага, болей усебаковага адлюстравання сучаснасці — з усімі яе складанымі праблемамі, з усёй гэтай псіхалагічнай спецыфікай, якая характэрна для беларускіх асяроддзяў.

— Перш за ўсё гэтага патрабую я ад сябе і гэтага, думаю, патрабуюць нашы чытачы, якія ўжо перасталі быць малапісьменнымі, цёмнымі мужыкамі, мастацкія густы якіх, дзякуючы перш за ўсё тэлебачанню, кшталтуюць самыя лепшыя шэдэўры сусветнай літаратуры.

— Словам, нашаму літаратурнаму беларускаму асяроддзю патрэбны нехта такі, як сучасныя польскія пісьменнікі Юльян Кавалец і Эрнест Брыль.

Працяг на стар. 4




- 28-га лютага адбудзецца ў Беластоку ўрачысты пленум Галоўнага праўлення, прысвечаны 15-ай гадавіне існавання Беларускага таварыства і яго органа «Нівы».
- Драмгурток у Свіслачанах (Беластоцкі павет), у склад якога ўваходзяць члены БГКТ і ЗМВ, падрыхтаваў п'есу Янкі Купалы «Паўлінка» і нядаўна выступіў з ёю ў сваёй вёсцы.
- 9-га студзеня прэзідыум гарадскога аддзела БГКТ у Беластоку выслухаў справаздачу аб дзейнасці аддзела ў 1970 годзе, якую зрабіла сакратар праўлення Зося Стаськевіч. Прэзідыум апрацаваў і прыняў таксама план працы на гэты год. Апрача таго, былі абмеркаваны справы, звязаныя з арганізаваннем ёлкі для дзяцей, бацькі якіх з'яўляюцца членамі БГКТ.
- 11-га студзеня прэзідыум секцыі беларускага школьніцтва пры акруговым метадычным цэнтры ў Беластоку зацвердзіў тэматыку метадычнага дапаможніка да навучання беларускай мовы ў пачатковых школах і ліцэях.
- Стала ўжо традыцыяй, што гарадскі аддзел БГКТ у Беластоку 13-га студзеня падрыхтоўвае вечарыну, якою адкрывае карнавальны сезон.
- 16-га студзеня адбылося ўрачыстае адкрыццё клуба «Селяніна» на вуліцы Горнай у Гайнаўцы. Гайнаўскі ГС пераказаў клуб пад апеку Беларускага таварыства, у якім БГКТ будзе весці праграмную дзейнасць.
- Варшаўскі аддзел 16-га студзеня арганізаваў у Прымасоўскім палацы ўрачыстую вечарыну, прысвечаную 15-ай гадавіне дзейнасці Беларускага таварыства ў Польшчы. З прамовай выступіў сакратар аддзела Янка Заброцкі. У вечарыне прыняло ўдзел 420 членаў і сімпатыкаў БГКТ.
- 19-га студзеня прэзідыум Галоўнага праўлення на сваім пасяджэнні разглядаў кадравыя справы бельскага і сакольскага аддзелаў. Там былыя інструктары ГП, якія выконвалі функцыі сакратароў аддзелаў, адышлі на работу ў іншыя месцы, і ў сувязі з гэтым неабходна прыняць новых. Прэзідыум абмяркоўваў таксама змест даклада на ўрачысты пленум, прысвечаны 15-ай гадавіне з дня заснавання БГКТ, які адбудзецца 28-га лютага. (мх)

МОЙ РОДНЫ КУТ



*Сад зімою.* *Фота Я. Цялушэцкі*

*Л. ТАНКЕВІЧ*

## ПЕРШЫЯ ГАДЫ

Зноў будуць кветкі пад акном,
Сцены запахнуць свежым тынкам,
Дзе на руінах з палыном
Дзеці дзяліліся скарынкай.

Прыедуць людзі, будуць жыць
І працаваць у братняй згодзе.
Здабытым шчасцем даражыць,
Што на сустрэчу ім выходзіць.

Не будуць шыбы стукатаць,
Нікога выбух не абудзіць.
Дзеці спакойна могуць спаць,
Няхай іх сон салодкім будзе.

А калі ранак ночы цень
Асвеціць яснаю зарніцай,
Настане зноў шчаслівы дзень,
Якому кожны пакланіцца.

## ЗІМОВАЙ ВЯЧЭРНЯЙ ПАРОЮ

*Лёгкім вечарам кружаць сняжынкі,*
*Абсыпаюць румяны твой твар.*
*Дай руку мне, шырокай сцяжынкай*
*Мы прайдзём, перапоўнены мар.*

*Гэты вечар чароўным празвалі,*
*Азірніся, кругом паглядзі,*
*І паслухай, з блакітнае далі*
*Шчасце шэпча для нас маладзік.*

*Не свяці ярка, месяц, не трэба —*
*Сэрца скажа, кудою ісці,*
*І высокае зорнае неба*
*Нам паможа дарогу знайсці.*

*Усе імкненні мае дарагія,*
*Набалеўшыя скаргі душы,*
*Рук гарачых усціскі тугія,*
*Ты ў вячэрняй пазнаеш цішы.*



ВІКТАР СТАХВЮК

* ✲ *

Прыйдзі да мяне
Я цябе ў мроях бачыў
Ты прышла у сне
Чароўная
Ноччу ліпнёвай створана
Ветрам рассыпаны валасы
Колеры кветак удыхні ў сябе
Я падсвядомасці голасам
Дум павуціннем
Даў постаць табе
Ты йшла над ручай
О, асалод глыбіня бяздонная
Раўня прыгажосці русалак — німф
Лугамі пахучая маладосць
Шчасця прыліў
Гнуткасць ракіты ў дзявочым целе
Бездань інтымнасці ў ходзе тваім
Блізкасць пазнання цішынёй
дрыжэла
Яго парог я вобмацкам пераступіў
Захліснуўся шчасцем ўпершыню
Прыгаршнямі ў сэрца ліў
Каханне
Выйдзі са сну
Прыйдзі да мяне
Або згінь.

БЕЛАВЕЖА

ОРГАН ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАГА АБ'ЯДНАННЯ ПРЫ ГП БГКТ № 146

АЛЕСЬ БАРСКІ

добра памятаю тую ноч
калі сказала Ты
нас ужо трое а не двое
і ўзяла маю руку
і палажыла на жывот
і я пачуў ціхуткі стукат
сын ці дачка
мы не умелі адказаць
ды пэўным сталася адно
што наша шчасце падапрэ
малая трэцяя калона.



———

*Я каханнем прасяк*
*як зеленню луг веснавы*
*яно ва мне*
*і пада мной*
*і над мной*
*ва ўсёй маёй падглебе*
*у працы*
*ў песні*
*і у хлебе*
*яно усюды ёсць*
*куды б не працягнуў далоні*
*і у цяпле заснежаных грудзей*
*і ў аксаміце ўзлоння.*

———

бывала я Табе не верыў
і думаў што мяне прагнала
Ты з свайго сэрца назаўсёды
але зірнуў аднойчы ў вочы
у іх убачыў свае здымкі
што ты схавала ад прахожых
і перастаў я сумнявацца
пераканаўся на заўсёды
што у вачах партрэт мой носіш
каханне мы стварылі самі
без указанняў і без дырэктываў
з яго мы выганялі дзікаватасць
пыхлівасць вады і норавы
недасканаласць і заганы
таму усё ў ім наша ўласнасць
таму мы дзякуем натуры
бо надзяліла нас інстынктам
які прывёў нас у каханне

———

*усё пакажы што маеш*
*не хавай у фалдах устыду*
*найдрабнейшай сваёй часцінкі*
*прыклад вазьмі з прыроды*
*якая вабіць адвечным*
*распрананнем*
*і апрананнем*
*прыгажосцю сваёй падзяліся*
*распраніся*

———

Хавайся за дрэвамі ў пушчы
я буду лавіць цябе ў лесе
як птушка шукае і ловіць
першы вясенні промень
знайду я цябе у крушыне
а можа ў зялёных малінах
або пад залётнай рабінай
схаплю, панясу нібы сонца
трапяткое
пахучае
цёплае
у вонныя травы паляны
якая ляжыць як узлонне
чакае прыліву кахання
прыкрытая купалам неба
нырнем там у шчасця бяздонне
калі станеш па грудзі у жыце
акунешся ў пахучую хвалю
жаўрукі разнясуць іскры сонца
і выбухне полымя жніва
я вясло прынясу дарагая
вясло з тонкай сталі адбітай
і тады паплывеш па загоне
на востраў нашага шчасця

———

*як хочаш буду тваім берагам*
*або ветрам які абыдзе цябе навокал*
*як толькі працягнеш руку*
*на мяне усюды натрапіш*
*і расчэшаш мяне нібы грэбенем*
*сваімі кволымі пальцамі*
*або проста на мне абапрэшся*
*каб глядзець у крыніцу плывучага*
*шчасця*

МІХАСЬ МЕЛЬНІК

* ✲ *

Іншы раз на сэрцы — непапраўнае,
Што вярнуцца хочацца ў мінулае,
Дзе маленства блукае, галёкае —
Блізкае такое і далёкае.
О, мая вясёлая ваколіца,
Ой ты, ахмялёнае дзяцінства!
Нерушная, ясная душа,
Звонкі плёс і шумная шаша...
О, мая раздольная дзяржава —
Вёска у птушыных перапевах!
І зара світальная, як мара,
Песня салаўінага абшару...
Дзе ж ты, мая светлая дуброва?!
Там дзяцінства мыкае каровай...

КАСТУСЬ БАНДАРУК

## ВЕРАСЕНЬ

У каляровым пажары лісця
абсмалены мур
стаіць як паўвека назад
як струп
на здаровым целе
сучаснасці
каб не забыцца
напамінае
— доўга
гояцца раны
мінулага.



І. ЧЫКВІН.

* ✲ *

*У Крысталю мужчын... з чужымі, з чужымі,*
*Да ранку, дашчэнту, салодка — горка.*
*Інакш ужо нельга. Інакш немагчыма.*
*Жыццё, як фунт ліха, як дробка махоркі.*

*Яшчэ ўсё танцуюць. У музыкі дыме*
*Яшчэ, як у лесе, зблытаўшы дарогу,*
*Снуюць па Крысталю. З чужымі, з чужымі...*
*Інакш ужо нельга. Інакш ўжо не могуць.*

*Жанчыны, жанчыны у крэслаў руінах,*
*У горлах дэкольтаў, у целе няволі...*
*Не выйсці адгэтуль ўстыдлівай дзяўчынай,*
*Так бесклапотна усе тут сваволяць.*

*З Крысталю, з паўночнага дыму*
*У ранак голы, цудоўны, дзіцячы,*
*Выйсці самому ужо немагчыма,*
*Ужо немагчыма жыць іначай.*



* ✲ *

*За вёскай з сена ўставала надранне,*
*З-за лесу сонца цякла пазалота,*
*Як быццам нехта кранаў фартэп'яна*
*На вырасшых у гародах нотах.*

*Усё было справядліва ў прыродзе —*
*Далёка дзесьці была недарэчнасць*
*Адвечнай смерці, што прыйдзе і пройдзе,*
*А ўсё ж такі нешта пакіне на вечнасць.*

*Маўчалі яшчэ каляіны дарожны*
*Дзе-не-дзе хаты курылі цыгары,*
*У невядомае людзі ішлі асцярожна,*
*Баючыся смеху на выспаным твары.*

*І час стаяў, як ракіты на лузе,*
*Гнуткі, жывы, працякаючы ў хаты.*
*Над вёскай міску неба трымаў бусел,*
*Каб заўжды тут было толькі свята.*

пра напрамкі працы аграномаў і заатэхнікаў. У Беластоцкім ваяводстве ёсць іх разам 630. Гэта афіцэры сельскагаспадарчага прагрэсу. Ад іх актыўнай працы залежыць павышэнне культуры гаспадарання.

Іншыя артыкулы і апрацоўкі, змешчаныя ў часопісе «Дэметэр», таксама вельмі павучальныя. Хацелася б аднак звярнуць асаблівую ўвагу на артыкул Мікалая Гапуніка аб эфектыўнасці ўгнойвання сялянскіх палёў. На канкрэтным матэрыяле з практыкі беластоцкіх сялян даказвае ён, што прымяненне мінеральнага ўгнаення вельмі аплачваецца. Павышэнне дозы на адзін кг NPK давала ў нас гаспадару 10,36 зл. чыстага прыбытку.

Новы рэгіянальны сельскагаспадарчы часопіс выдаюць аддзел сельскай гаспадаркі і лясніцтва Прэзідыума ВРН у Беластоку і вопытная раённая сельскагаспадарчая станцыя ў Шэпетове. Галоўным яго рэдактарам з'яўляецца *Ежы Савіцкі*, а ў саставе рэдакцыйнай калегіі знаходзяцца: К. Нявінскі, В. Сапоцька, М. Вазніца і С. Завадзінскі. Графічную апрацоўку часопіса робіць мастак С. Рыбі.

Жадаем беластоцкай «Дэметэр» паспяховага развіцця. Для зацікаўленых падаем адрас:
„Demeter", Białystok, ul. Wesołowskiego 1, pokój 5, tel. 22-623.

(вр)

# КОНКУРСЫ

## ГІГІЕНЫ КАРОЎНІКАЎ І ПРАДУКЦЫІ МАЛАКА

У кастрычніку мінулага года Павятовы саюз сельскагаспадарчых гурткоў (ПЗКР) у Беластоку арганізаваў конкурс гігіены кароўнікаў, а таксама прадукцыі малака, які будзе прадаўжацца да чэрвеня г.г.

Конкурс ставіць перад удзельнікамі наступныя задачы:

1) дбаць аб чысціні памяшканняў і гігіене кароўнікаў;

2) дбаць аб чысціні кароў і гігіене ўдою;

3) дбаць аб прадукцыі і кансервацыі паш;

4) дбаць аб рацыянальным кармленні кароў;

5) дбаць аб рацыянальнай гадоўлі цялят.

У конкурс уключылася 20 гурткоў вясковых гаспадынь (КГВ) з паасобных грамад. Удзельнікі рэалізуюць па адной тэме. Найлепш выконваюць задачы конкурсу такія КГВ, як Сабалева, Багданкі, Шымкі, Рафалоўка і Гарадок.

## РАЦЫЯНАЛЬНАГА КАРМЛЕННЯ СВІНЕЙ

Павятовае праўленне гурткоў вясковых гаспадынь (КГВ) і ваяводскае аб'яднанне свінагадоўцаў у Беластоку арганізавалі конкурс рацыянальнай гадоўлі свіней. У конкурсе прымае ўдзел 15 КГВ.

У сувязі з конкурсам у КГВ у Азяблах, Пяньках і Дайлідах адбыліся курсы па гадоўлі свіней, а таксама дэманстраваліся кінафільмы на сельскагаспадарчыя тэмы.

КГВ у Новай Волі і ў Крухмах у сувязі з конкурсам арганізавалі ў сябе наглядную гадоўлю парасят.

(яц)

што іх паяўленне на вуліцах было вынікам кары боскай за грахі палаччан. Зразумела, што такія інфармацыі не маюць гістарычнай вартасці.

Аўтар «Повесці» глядзеў, несумненна, на тагачасныя падзеі вачыма палітычных дзеячоў з Кіева. Не прызнаваў ён права на самастойнае існаванне княстваў. Быў за абсалютным адзінствам дзяржавы. Распад Русі аднак ужо распачаўся, і ніхто яго не мог паўстрымаць.

Апрача «Повесці врэменных лет» да гістарычнай літаратуры часоў Кіеўскай Русі трэба аднесці Кіеўскі летапіс, які быў як бы працягам «Повесці» і даводзіў паказ гістарычных падзей да 1200 года.

Значную цікавасць прадстаўляе таксама Галіцка-Валынскі летапіс, які паказвае падзеі да 1292 года. У гэтым летапісе часта ўспамінаюцца такія беларускія гарады, як Гродна, Тураў, Валкавыск, Навагрудак, Пінск, Слонім.

Значэнне гістарычнай літаратуры і асабліва «Повесці врэменных лет» грамаднае. Без яе нельга было б зразумець і асвятліць найбольш істотныя справы, звязаныя з Кіеўскай Руссю. Зрэшты, мае яна вялікае значэнне для характарыстыкі сярэдневяковай Еўропы, Бліжняга Усходу. Як раз гэтым фактам тлумачыцца тое, што «Повесць» перакладзена на польскую, нямецкую, французскую, англійскую, чэшскую, венгерскую і многія іншыя мовы.

*ДА 50-ГОДДЗЯ ІВАНА МЕЛЕЖА*

# ДАРОГАЙ ВЕКУ

У бібліяграфічным даведніку «Пісьменнікі Савецкай Беларусі» можна прачытаць коратка, як у даведніку, што пісьменнік Іван Мележ нарадзіўся 8 лютага 1921 года ў вёсцы Глінішча, Хойніцкага раёна, Гомельскай вобласці, у сялянскай сям'і, што ў 1938 годзе ён скончыў сярэднюю школу і гэтак далей. Не прачытаеш там аднак, «колькі папамераў нагамі зямлі, ідучы ў «навуку» — спачатку недалёка — на другі канец Глінішчаў, потым — з пятага класа — на далёкі канец Алексіч — паўз могілкі, цераз грэблю, цераз усё доўгае сяло. Мераў кожны дзень — і ў студзенькі вечар, і ў красавіцкае разводдзе, калі, дабраўшыся да ганка школы, чуў, як вада хлюпае ў лапцях, абцінае горача анучы».[1]

Нялёгкая была дарога ў навуку сялянскага хлопца ў даматканай світцы, будучага выдатнага беларускага празаіка Івана Мележа. Ужо пасля сёмага класа ён вырашыў падацца ў шырокі свет і выслаў аж 2 заявы на рабфак, аднак ні ў Мінску, ні ў Нова-Беліцы яго не прынялі, паколькі не меў ён тады яшчэ вымаганых 15-ці год. Дык бацька завёз яго ў Хойнікі, дзе з вялікімі намаганнямі ўдалося яму закончыць сярэднюю школу. Адсюль жа рашаецца пайсці ён у яшчэ шырэйшы свет. Дарог было шмат, і малады хлапец прабуе паступіць у Інстытут гісторыі, філасофіі і літаратуры, што знаходзіўся ў Маскве. Аднак суджана яму было вярнуцца тады назад, у Хойнікі. І толькі праз год, у 1939 годзе, упартаму хлапцу ўдаецца ўсё ж паступіць у інстытут, недасяжны мінулым летам.

Году аднак ён не змарнаваў: стаў камсамольскім работнікам, шмат ездзіў па раёне і, як успамінае ён сам, гэты год даў багата больш, чым любая вучоба ў любым інстытуце. Тады ж (у студзені 1939 г.) у камсамольскай газеце «Чырвоная змена» быў надрукаваны яго першы верш.

У Маскве Іван Мележ трапіў у цікавае асяроддзе. Сярод сяброў па інстытуту было шмат таленавітых людзей, з якіх многія пасля сталі вядомымі паэтамі. Вайна перарвала іх палкія, юнацкія дыскусіі. «Доўга балюча гнёў душу разлад паміж нядаўняй лагоднасцю, маладой любоўю да зямлі, да жыцця і жорсткасцю бамбёжак, страхоццем першых пажараў і першых смерцяў, — успамінаў пазней аўтар. — Адзін за адным паміралі таварышы-студэнты, хлопцы-калгаснікі, рабочыя людзі, смерць цікавала з кожнай дарогі, з кожнага поля, з чыстага, яснага неба».

Цяжка паранены, пісаў І. Мележ свае першыя апавяданні ў Тбілісі. Пісаў левай, здаровай рукой. «Пісанне было цяжкім удвайне: ад таго, што я толькі пачынаў пісаць, што словы былі такімі непаслухмянымі, і ад таго, што непаслухмяны быў аловак у няўпраўнай левай руцэ...» — адзначае ён у сваёй аўтабіяграфіі. У сваім багатым творчым даробку аўтар не раз звяртаўся да тых дзён грознай навальніцы, беспасрэдным удзельнікам якіх быў ён сам. Гэтыя яго кнігі былі аўтару асабліва блізкія. Маем тут на думцы першы зборнік апавяданняў пісьменніка «У завіруху» (1946 г.), «Гарачы жнівень» (1948), буйны ваенна-гістарычны раман «Мінскі напрамак» (1953) і інш. Аўтар заўсёды лічыў, што пісьменнікі павінны пісаць аб самым блізкім сабе, аб тым, што асабліва хвалюе іх душу, што сталася як бы часткай іх біяграфіі.

Будучы эвакуіраваны па прычыне непрыдатнасці да ваеннай службы ў тыл, ён пачынае завочна вучыцца ў Бугурусланскім педінстытуце. Але тут, у заволжскіх краях, сумаваў ён па зямлі сваёй роднай і блізкіх. І калі толькі даведаўся, што пад Масквой пачынае работу Беларускі універсітэт, адразу ж падаў туды заяву. А на пачатку наступнай восені універсітэт спецыяльным эшалонам, у якім таварныя вагоны былі запоўнены кнігамі і універсітэцкім абсталяваннем, ехаў у Мінск. Спаленаму, зруйнаванаму фашыстамі Мінску, Беларусі, шматпакутнаму і гераічнаму народу аддаваў сваю творчую энергію і талент пісьменнік Іван Мележ. Тут ён закончыў універсітэт, пасля — аспірантуру, тут выкладаў беларускую літаратуру, працаваў у часопісе «Полымя», у ЦК партыі, тут пісаў свае лепшыя творы, тут убачыў на сцэне свае п'есы «Пакуль вы маладыя», «Дні нашага нараджэння», а ў апошні час і спектакль па раману «Людзі на балоце».

Раман «Людзі на балоце» парушыў апінію публічнасці. Было тут нешта зусім новае, нейкі свежы подых, і разам з тым адчувалася вялікае майстэрства. На базе гістарычных падзей, зрухаў, што адбываліся пасля рэвалюцыі на Палессі і ва ўсёй краіне, пісьменнік расказаў нам пра цяжкое і складанае жыццё палескай вёсачкі Курані. Расказаў па-сучаснаму, з пазіцыі передавога пісьменніка 50—60 г.г., і зрабіў гэта, трэба прызнаць, дасканала. Гэтым самым ён даказаў, што пад сучаснасцю твора нельга разумець толькі сучаснасць матэрыялу, толькі сённяшняе жыццё, што той, хто спрашчае, звужае разуменне сучаснасці, вельмі памыляецца. Іван Мележ гаворыць: «Не ведаючы таго, што расло ўчора на нашай зямлі, нельга зразумець таго, што расце сёння, убачыць загадзя, што будзе заўтра, нельга любіць па-сапраўднаму сваю зямлю, свой дзень».

АДА ЧЭЧУГА

---

[1]) «Пяцьдзесят чатыры дарогі», Мінск, 1963, ст. 389. Усе наступныя цытаты ўзяты з аўтабіяграфіі І. Мележа.

○ БІБЛІЯТЭЧКА "Ніва" ○ ЯНКА МАУР ○ ПАЛЕСКІЯ РАБІНЗОНЫ

*Адрэж па лініі, назначанай пункцірам, зрабі дзіркі ў месцы, вызначаным кружкамі і нанізжы старонкі на драцікі або шнурочак.*

69.

Думка аб рэвальверы не прыходзіла Віктару ў галаву і цяпер вельмі збянтэжыла яго.

— Нам толькі забіць гэтага старога чорта ў сне, а другому мы ўдвух далі б рады, — трымаўся яшчэ Віктар.

— Яно, можа, і так, — разважаў Мірон. — А як ты заб'еш яго адразу, калі з будкі толькі ногі тырчаць? А калі толькі параніш, то і з рэвальверамі яны нас перамогуць.

— Ты, мусіць, баішся? — папікнуў Віктар.

— Што? — пакрыўдзіўся Мірон. — У такім разе, ты добра падумай і скажы: ці так я кажу, ці не? Калі ты шчыра скажаш, што не так, тады я пайду з табою на рызыку.

— Вось каб ведаць, што рэвальвераў няма, — нерашуча прамовіў Віктар.

— Зноў кажу: яны ішлі спецыяльна, каб загубіць нас. Няўжо ж не ўзялі з сабой рэвальвера?

Віктар павінен быў згадзіцца і з гэтым.

— Падыдзем бліжэй, паглядзім.

Падкраліся, прыслухаліся, зазірнулі ўсярэдзіну. У цемры нічога не было відаць, толькі ногі высоўваліся з будана. Тут ужо і Віктар пераканаўся, што лезці ў цемры ў цесную будку нельга.

— Якая прыкрасць, — прашаптаў ён, калі адышліся. А ўтвар іх мы не забудзем і абавязкова знойдзем з дапамогай тых, каму гэта належыць.

Гэтая думка канчаткова супакоіла Віктара.

— У такім разе пойдзем і мы спаць куды-небудзь далей, — сказаў ён.

Яны адышліся, прынамсі, на кіламетр і прытуліліся пад дрэвам.

А калі на світанні зноў падкраліся да будана, бандытаў ужо не было. Не было і барсучынай скуры.

— Затое глянь, што яны нам пакінулі, — сказаў Мірон.

На зямлі засталася паперка з соллю і некалькі агрызкаў хлеба. Як шалёныя, накінуліся хлопцы на гэтыя рэшткі і праглынулі не толькі агрызкі, але падабралі і ўсе малюсенькія драбкі. Віктар нават узяў сабе ў рот каліўца солі.

— Ах, якая смачная, салодкая! — цмокнуў ён. — Смачней за ўсе цукеркі і ласункі.

Пакаштаваў і Мірон. Аднак, калі Віктар яшчэ захацеў узяць, Мірон не даў.

— Гэтак ты ўсё з'ясі! — сказаў ён і дадаў: — Цяпер я не шкадую, што яны адрэзалі сабе нашага зайца. Я б і добраахвотна згадзіўся на такі тавараабмен.

Раптам Віктар крыкнуў і пляснуў сябе па галаве. — Як жа мы не здагадаліся прасачыць, кудой яны выходзяць?!

— Вось гэта дык глупства з нашага боку! — сказаў Мірон. — І як мы маглі забыцца? Мусіць, непасрэдная небяспека ды соль зацямнілі наш розум.

71.

тар, — як гэта чалавек можа дайсці да такога становішча. Вось кажуць: звер, звер! Дык нашы ж суседзі — звяры — нявінныя дзеці перад гэтымі людзьмі! Да гэтага часу мы і бяззбройныя не мелі ад іх аніякай крыўды.

— Наадварот яшчэ: мы самі скрыўдзілі беднага мішку, — засмяяўся Мірон.

Доўга дзяліліся яны ўражаннямі аб мінулых падзеях. У кожным разе, два тыдні сядзець і чакаць склаўшы рукі ў іх не было аніякай ахвоты. Таму пастанавілі ўзяцца за працу сістэматычна, планава: кожны дзень абследаваць невялікі ўчастак, але дасканала. Пры такой працы яны абавязкова павінны былі натрапіць на той праход, якім карыстаюцца бандыты.

Але праз дзень выявілася, што на гэта часу не хапае. Заяц і рыба скончыліся, а новай спажывы не было. Увесь дзень трэба было ламаць галаву, як пражыць. Грыбоў траплялася мала, бо яшчэ не час быў на іх. Набяруць крыху, прыйдуць дадому, спякуць, з'ядуць — і ўжо зноў галодныя, зноў трэба ісці. І гэтыя грыбы, калі іх спячэш, так зморшчацца, што ад іх бадай нічога не застаецца.

— Калі б яшчэ з хлебам, дык сяк-так! — уздыхалі хлопцы.

Адна толькі ўцеха была, што можна было на грыб палажыць драбінку солі, «паёк», як казаў Мірон.

Каб яшчэ да возера было як даступіцца, то, можа, прыдумалі б што-небудзь, каб рыбіну якую злавіць. Але возера нават відаць не было. Шырокае балота аддзяляла яго ад хлопцаў.

— Хоць бы яшчэ які заяц заснуў на дарозе! — казаў Віктар.

— Другога зайца, мусіць, прыйдзецца чакаць столькі гадоў, колькі мінула ад таго часу, як твая бабуля натрапіла на соннага зайца, — вылічыў Мірон.

Затое замест зайца яны аднаго разу сустрэлі свайго знаёмага мядзведзя. Той стаяў каля вялікага старога дрэва і, задраўшы галаву, да нечага прыглядаўся. Мусіць, ён стаяў да хлопцаў тым бокам, з якога было папсавана вока, бо не заўважыў іх, калі яны выйшлі на адкрытае месца. Таварышы зараз жа схаваліся і пачалі сачыць.

Цяпер яны зусім не спалохаліся. Мядзведзь здаваўся ім ужо нястрашным, невялікім, нядужым.

— Дай я падкрадуся і выб'ю яму другое вока, — прашаптаў Віктар, сціскаючы ў руках сваю булаву.

— Не думай, што зноў так будзе, як тады, — папярэдзіў Мірон. Але і яму самому справа здавалася простай.

Мядзведзь усё нюхаў паветра ды прыглядаўся да чагосьці на дрэве. Зірнулі туды і хлопцы і заўважылі дупло, а каля яго нібы мухі лятаюць.

— Пчолы! — сказаў Віктар. — Дык вось да каго ён прыглядаецца! Дзякуй яму за тое, што знайшоў, а выкарыстаць трэба ўжо нам.

Хлопцы пачалі красціся да мядзведзя. Той абапёрся пярэднімі лапамі аб дрэва і сабраўся лезці. Ён быў так заняты сваёю справай, што мог бы не заўважыць ворага нават з абодвума вачыма, а з адным — тым болей.

 

70.

— Пабяжым хоць цяпер! — крыкнуў Віктар і кінуўся наперад.

— Стой! Пачакай — затрымаў яго Мірон. — Не забывайся, што небяспека не мінула. Можа, яны дзе па лесе ходзяць. Можа, мы ім трапім на вочы. Трэба красціся асцярожна, хавацца за кожным кустом, кожным дрэвам.

Хоць такім спосабам і мала было надзеі дагнаць бандытаў, якія ішлі вольна, але бегчы было немагчыма.

Доўга яны ішлі такім чынам, часам і перабягалі, але бандытаў не бачылі. Калі ўжо канчаткова пераканаліся, што іх на востраве няма, пачалі шукаць слядоў каля балота.

Між тым сабраліся хмары, загрукатаў гром, упалі першыя кроплі дажджу. Трэба было бегчы ратаваць агонь. І калі хлопцы непадалёк ад таго месца, дзе яны самі перабіраліся на суседні востраў, заўважылі свежыя сляды дзвюх пар ботаў, яны не адважыліся пайсці па іх. Рызыкаваць агнём было нельга.

— Цяпер мы напэўна ведаем, што шукаць пераходу на нашым востраве няма сэнсу, — сказаў Мірон, паварочваючы назад. — Гэта ўжо добра. А дагнаць мы іх наўрад ці дагонім...

— Значыць, прыйдзецца чакаць два тыдні. Яны абяцалі прыйсці па нейкай сваёй цёмнай справе. Тады падрыхтуемся ўжо і будзем разумнейшымі.

XVI

**Цяжкія часы. — Спатканне з старым знаёмым. — Мядзведжая хвароба. — Каменныя прылады. — Дымарня.**

Два тыдні чакаць смяротных ворагаў, каб з дапамогай іх вызваліцца! Хто б мог падумаць, што можа скласціся такое становішча?!

— Ну, як табе падабаюцца нашы прыгоды? — усміхнуўся Мірон. — Ці такія яны прыемныя, як пішацца ў кнігах?

— Цяпер, калі я пад'еў мяса з соллю і калі непасрэднай небяспекі няма, я адчуваю сябе досыць добра, — адказаў Віктар.

— А наогул?

— Наогул зусім нецікавая справа. Я ахвотна адмовіўся б ад гэткіх прыгодаў. А ты?

— І я таксама, — уздыхнуў Мірон. — Каб яшчэ ўся гэтая рызыка ды пакуты мелі якую-небудзь мэту, як гэта бывае, то яшчэ сяк-так, а тут цярпі і рызыкуй невядома дзеля чаго. Хавайся, нібы звер ад паляўнічага, без ніякай віны.

— Я проста зразумець не магу, — злосна сказаў Вік-

72.

Толькі ён прыстасаваўся лезці, як — бац! — яму нешта па галаве ды як крыкне нехта над вухам! Зароў наш мядзведзь, шугануў убок, ледзь Мірона з ног не збіў і знік з вачэй. Напэўна можна сказаць, што мядзведзь нават і не бачыў, адкуль на яго звалілася бяда, але ён так спалохаўся, што... адразу ў яго сапсаваўся жывот.

— Вось бачыш, якая простая справа! — урачыста прамовіў Віктар.

Мірон толькі плячыма паціснуў.

— Мусіць, толькі ў нас гэтак здараецца, — сказаў ён, бо інакш людзі зусім не баяліся б мядзведзяў... А каб дастаць мёд, відаць, трэба спачатку выкурыць пчол дымам. Прыйдзецца ісці па агонь.

— Але спачатку пашукаем мядзведзя. Можа, у яго і другое вока выбіта, тады мы зможам забіць яго дубінамі.

— Каб было так, ён не ўцёк бы гэтак шпарка. Мусіць, бачыў.

Яны пайшлі ў той бок, куды пабег мядзведзь. Яго няцяжка было знайсці, бо ён пакінуў след ад сваёй раптоўнай хваробы... Праз некаторы час яны пачулі ў гушчары хруст, енк, нібы тузаніну. Падкраліся, зірнулі — курчыцца, валяецца мядзведзь, нібы яму трапілі ў жывот кулі.

Калі ўбачылі гэта хлопцы, разам кінуліся да яго і пачалі малаціць дубінамі. Непрыемнае і цяжкое было гэтае «паляванне»... Нарэшце бездапаможны мядзведзь загінуў пад ударамі дубін. Хлопцы, засопшыся, паваліліся на траву.

— Мусіць, мы адзіныя ў свеце людзі, якім без ніякай зброі пашанцавала забіць мядзведзя, — прамовіў Мірон. — Такі выпадак варта запісаць у кнігу.

— Запісана ўжо, — адказаў Віктар. — У адной навуковай кніжцы я чытаў пра такое здарэнне: адзін паляўнічы заўважыў у аўсе мядзведзя. Той ляжаў на зямлі, нахіліўшы на сябе пук аўсяных каласоў, і спакойна ласаваўся імі. У паляўнічага стрэльба была набіта толькі шротам. Забіць мядзведзя шротам нельга, але паляўнічы захацеў хоць спудзіць яго, прагнаць з аўса і стрэліў проста ў паветра. Мядзведзь спалохаўся і «захварэў». Вось гэтак жа, як цяпер. А на другі дзень яго знайшлі за некалькі соцень крокаў мёртвым. Ён памёр ад перапуду. Я не думаю, каб і наш мядзведзь сканаў толькі ад перапуду. Але ў кожным разе гэта дапамагло нам справіцца з ім.

Як бы там ні было, а перад хлопцамі ляжала туша сапраўднага мядзведзя, здабыча, якой ганарыўся б кожны паляўнічы. Але як дастукацца да гэтай здабычы? Калі столькі пакуты было з зайцам і барсуком, то што будзе з мядзведзем?

— Хоць ты плач, гледзячы на багатую здабычу! — уздыхнуў Мірон. — Трэба абавязкова дастаць каменняў.

— І зараз жа! — крыкнуў Віктар.

Але Мірон зрабіў «матэматычныя падлікі», па якіх выходзіла, што працу і час ім трэба размеркаваць інакш, чым яны думалі. Каменні шукаць, мусіць, прыйдзецца не адну гадзіну, нямала часу пойдзе, каб апрацаваць іх.

## ЗЯМЛЯ І ЛЮДЗІ

# ВЯЛІКАЯ БІТВА

2 лютага 1943 г. закончылася Сталінградская бітва. У ходзе яе было забіта, паранена і ўзята ў плен паўтара мільёна фашысцкіх салдат і афіцэраў. Толькі на полі бою пад самым Сталінградам і ў горадзе пасля ліквідацыі акружанай групіроўкі было падабрана 147 200 трупаў ворага. 91.000 трапіла ў палон (сярод іх звыш 2 500 афіцэраў і 24 генералы на чале з фельдмаршалам).

Разгром немцаў пад Сталінградам — велізарная ваенна-палітычная падзея другой сусветнай вайны. Вялікая бітва пад Сталінградам палажыла пачатак карэннаму пералому ў ходзе ўсёй другой сусветнай вайны.



*Сталінград 2 лютага 1943 г.*

# КАНЕЦ ПАПСКАЙ АРМІІ

У сярэдзіне верасня па рашэнню папы Паўла VI былі распушчаны ўзброеныя сілы Ватыкана. 498 папскіх гвардзейцаў, 148 жандараў і 60 салдат ганаровай варты здалі сваю агнястрэльную і халодную зброю. Закончылася шматвекавая гісторыя папскіх узброеных сіл.

Першае падраздзяленне ватыканскай арміі — «Гвардыя конных егераў» — было створана яшчэ ў 1485 годзе пры папе Інакенціі VIII.

Пачынаючы з 1801 года, ватыканскія войскі, за выключэннем швейцарскіх гвардзейцаў, фарміраваліся галоўным чынам са знатных рымлян. Камандуючым назначаўся толькі тытулаваны арыстакрат, які-небудзь князь або граф.

У мінулым стагоддзі папскія войскі нярэдка накіроўваліся на падаўленне барацьбітоў за аб'яднанне Італіі. Так было, напрыклад, у кастрычніку 1867 года, калі папскія салдаты літаральна палявалі на «змоўшчыкаў», не спыняючыся перад забойствам жанчын і дзяцей. Асабліва жорстка распраўляліся папскія гвардзейцы з тымі, хто імкнуўся вызваліць Італію ад улады папы.

На працягу апошніх 100 гадоў ватыканскія ўзброеныя сілы не выходзілі за межы дзяржавы, тэрыторыя якой, размешчаная ў цэнтры Рыма, не перавышае 0,44 квадратнага кіламетра. Жандары неслі звычайную патрульную службу, гвардзейцы ахоўвалі самога папу, а салдаты ганаровай варты ўдзельнічалі ва ўрачыстых цырымоніях на плошчы Св. Пятра.

Аднак ватыканская адміністрацыя, нарэшце, зразумела, што яе ўзброеныя сілы сталі яўным анахранізмам. Рымскія газеты сцвярджалі што расфарміраванне ватыканскай арміі было выклікана галоўным чынам матэрыяльнымі меркаваннямі.

Цяпер у Ватыкане застаўся толькі атрад швейцарскіх гвардзейцаў колькасцю ў 54 чалавекі. Апранутыя ў форму, зробленую яшчэ па малюнках Мікельанджэла, яны нясуць службу на граніцах маленькай дзяржавы, размешчанай сярод рымскіх кварталаў.

## КУТОК ГАСПАДЫНІ

# ШТО РАБІЦЬ, КАБ ДОБРА ЗВАРЫЦЬ

### БЕЛАРУСКІЯ ДЭСЕРТЫ

На працягу сваёй доўгай гісторыі беларус меў няласкавы лёс. Не бавіўся ён на шумных забавах, не баляваў і не хадзіў на вытворныя прыёмы. Працаваў ён цяжка пад панскім прыгнётам, ды нават і не заўсёды быў сыты.

Дык і патравы беларускія — у асноўным простыя, нявышуканыя. Рабіліся яны найчасцей з усяго таго, што лёгка было знайсці ў лесе, што расло на скромным сялянскім полі ці ў агародзе. Часамі скварка ці сялянская кілбаса акрашвала небагатае вясковае меню.

Змянілася жыццё беларуса-селяніна так, што не пазнаць яго. Традыцыі аднак засталіся. Традыцыі заўсёды маюць вялікі ўплыў на далейшае жыццё народа. І няхай мука аржаная змянілася на пшанічную, усё ж падстава паасобных блюд засталася тая самая.

Сёння мы прапануем вам выкарыстаць у карнавале некалькі беларускіх салодкіх патраў.

### КУЛАГА

Кулагу робяць з грычанай мукі. Муку разводзяць цёплай вадой, так, каб атрымалася кансістэнцыя цеста на аладкі. А пасля заліваюць яго большай колькасцю кіпятку, дакладна вымешваюць усё лыжкай і ўсыпаюць дробна нарэзаныя сушаныя яблыкі або мочаную брусніку. Падрыхтаванае такім чынам цеста ставяць для бражэння ў цёплае месца да наступнага дня. На другі дзень перабрадзіўшае цеста пераліваюць з міскі ў каструлю і вараць 2 гадзіны на невялікім агні, увесь час памешваючы. Як толькі кулага зварыцца, разліваюць яе ў шклянкі або ў талеркі. Падаюць яе, калі добра астыне.

### СУШАНЫЯ СЛІВЫ З МАЛАКОМ

На 1 літр малака бяруць 10 дэкаў (100 г) сушаных сліў. Слівы трэба дакладна вымыць, заліць кіпячым малаком і так пакінуць на 1 гадзіну. Пасля гэтага трэба дадаць 5 дэкаў (50 г) цукровай пудры і ўсё перамяшаць. Слівы з малаком паставіць у негарачую духоўку. Павінны яны там знаходзіцца датуль, пакуль слівы не стануць зусім мяккія, а малако павінна пакрыцца румянай скурачкай. Падаваць гэтую патраву можна як гарачую, так і халодную.

### БЕЛАРУСКІ КІСЕЛЬ

Назваць яго можна было б яшчэ аўсяным, паколькі робяць з яго з аўсянай мукі ці аўсяных платак. Муку ці платкі разводзяць халоднай вадой, салодзяць (на 1 кг мукі бяруць паўкілаграма цукру) і ставяць, каб добра закісла. Пасля гэтага працэджваюць праз сіта і заварваюць крухмалам густы кісель. Кісель разліваюць у формачкі, каб ён астыў. Падаючы на стол, гаспадыні найчасцей паліваюць кісель якім-небудзь ягадным сокам. Некаторыя любяць яго есці з халодным кіпячоным малаком.

*Гаспадыня*

В. БЕРАЖКОЎ

З ДЫПЛАМАТЫЧНАЙ ГІСТОРЫІ ДРУГОЙ СУСВЕТНАЙ ВАЙНЫ

# ТЭГЕРАНСКАЯ СУСТРЭЧА

Удзельнікі канферэнцыі дамовіліся аб тым, што кола асоб, якім вядома аб прынятых у Тэгеране рашэннях, павінна быць, па магчымасці, абмежавана, што будуць прыняты і іншыя дадатковыя меры, каб пазбегнуць магчымасці ўцечкі інфармацыі.

З савецкага боку такія меры былі прыняты. Нам нават было прапанавана змест апошняй гутаркі не дыктаваць, як звычайна, стэнаграфістцы, — хоць яна была цалкам даверанай асобай, — а зрабіць запіс аб дакладных тэрмінах уварвання і аб іншых рашэннях ад рукі, з тым, каб потым аформіць пратакол у Маскве. З мэтай перасцярогі мы павінны былі здаць у дыппошту нашы рукапісныя запіскі тэгеранскіх рашэнняў. Яны былі запакаваны ў спецыяльныя тоўстыя чорныя канверты і брызентавыя мяшкі, апячатаны мноствам сургучных пячатак, і іх даставілі ў Маскву ўзброеныя дыпкур'еры. Трэба думаць, аналагічныя меры былі прыняты і англа-амерыканцамі.

Але ўсё ж захаваць у тайне ад ворага найважнейшыя рашэнні Тэгеранскай канферэнцыі не ўдалося.

Як стала вядома пасля вайны, Антані Ідэн, вярнуўшыся з Тэгерана ў Лондан, падрабязна інфармаваў аб рашэннях Тэгеранскай канферэнцыі брытанскага пасла ў Анкары сэра Нэтчбэл-Х'юджэсена. У зашыфраваных тэлеграмах былі звесткі не толькі аб перагаворах, якія датычалі Турцыі, што было б натуральна, але і інфармацыя па іншых важных пытаннях, уключаючы і тэрміны «Оверларда». Уся гэта інфармацыя трапіла праз германскага платнага агента Эляса Базна — камердынера сэра Х'ю — да гітлераўцаў.

Базна, які з-за мноства важных матэрыялаў, што ён даставіў гітлераўскай сакрэтнай службе СС, атрымаў мянушку «Цыцэрон», рэгулярна фатаграфаваў і перадаваў рэзідэнту СС у Анкары Мойзішу сакрэтныя дэпешы, што паступілі да брытанскага пасла. А сэр Х'ю праявіў надзвычайную бесклапотнасць, нярэдка пакідаючы чорны чамаданчык з дакументамі ў сваёй спальні без усялякага нагляду. Такім чынам сакрэтныя тэлеграмы траплялі ў рукі Цыцэрона.

У мемуарах, якія выйшлі ў 1950 годзе, Мойзіш расказвае, як аднойчы, правёўшы ў фоталабараторыі над праяўленнем плёнак атрыманых ад Цыцэрона, цэлую ноч, ён выявіў, што ў яго руках знаходзяцца пратаколы Каірскай і Тэгеранскай канферэнцыі. Успамінае пра гэта ў сваёй кнізе, апублікаванай крыху пазней, і Э. Базна. Ён піша, што з дакументаў, якія праходзілі праз яго рукі і былі перададзены ім на фотаплёнках немцам, можна было «даведацца аб намерах англічан, амерыканцаў і рускіх».

Фон Папен, які займаў у час вайны пасаду германскага пасла ў Турцыі, пісаў:

«Інфармацыя Цыцэрона была вельмі каштоўнай па дзвюх

 

# ТРЫБУНА чытачоў

## НЕБЯСПЕЧНАЕ МЕСЦА

У Чыжах на Гайнаўшчыне некалькі год таму назад была пачата перабудова старога бруку. Дагэтуль не перабудавана яшчэ 200-метровага адрэзка. Новы брук, што пачынаецца каля солтыса Сцяпана Якімюка, аж на 30 сантыметраў вышэйшы. Далей няма бруку, і тут дарога выбоістая, няроўная. Перад гэтым месцам пастаўлены дарожныя знакі, якія перасцерагаюць, што гэтае месца небяспечнае для хуткай язды. На жаль, многія шафёры на гэтыя знакі не звяртаюць аніякай увагі. Брук, пралажаны праз вёску Чыжы, спалучае дзве шашы: Бельск—Гайнаўка і Бельск—Нараў. Таму праз Чыжы штодзень праязджае шмат розных машын, а таксама курсуюць тут і ПКС-ы. Найгорш прыходзіцца цярпець пасажырам ПКС-у, калі шафёр не змяншае хуткасці перад небяспечным месцам. Пасажыры неспадзявана вылятаюць аж да столі аўтобуса. Ляцяць з полак сеткі і пачкі. Калі ПКС перастане скакаць як мяч, тады пасажыры, якія павіслі на праслах крэсел, і тыя, што апынуліся на падлозе, падымаюцца з заціснутымі ад болю зубамі і павольі ўсаджваюцца на свае месцы. За такія выхадкі трэба шафёраў ПКС караць, кіраваць на прысудныя калегіі. Нарушаюць яны правілы дарожнага руху і крыўдзяць пасажыраў. Варта, каб на іх язду звярнула таксама ўвагу мясцовая чыжоўская міліцыя.

*Я. М., Гайнаўскі павет*

*З жыцця ліцэя*

## ФАКУЛЬТАТЫЎНЫЯ ЗАНЯТКІ

Ад 1-га верасня 1970 г. у нашай школе адбываюцца факультатыўныя заняткі. Яны вядуцца ў чацвёртых класах і адыгрываюць вялікую ролю. Кожны з вучняў ходзіць на такія заняткі, якія калі-небудзь яму прыдадуцца. Канкрэтна кажучы, гэтыя ўрокі падрыхтоўваюць моладзь і да матуральнага экзамена і да экзамена ў вышэйшыя ўстановы. У нашым ліцэі факультатыўныя заняткі падзяляюцца на чатыры групы: гуманістычную (польская мова і гісторыя), рускай мовы, геаграфічную і матэматычную. Навучанне вядзецца пад кіраўніцтвам нашых настаўнікаў.

## СХОД ЗМВ

15 студзеня 1971 г. у Гайнаўскім беларускім ліцэі адбыўся сход прадстаўнікоў класных гурткоў ЗМВ. На сходзе было пастаноўлена ўтварыць тры секцыі: навуковую, культурную і гаспадарчую. Да навуковай секцыі будуць належаць найлепшыя вучні. Яны будуць дапамагаць слабейшым вучням у вучобе. Заданнем культурнай секцыі будзе падрыхтоўка мастацкай часткі на акадэміі, вечарынкі і т.д. Гаспадарчая секцыя будзе пільнаваць ладу і парадку на тэрыторыі школы.

*Люба Ярашэвіч,*
*Гайнаўскі беларускі ліцэй*

## ХЛОПЦЫ ЛЮБЯЦЬ ПІЦЬ ВІНО

Нядаўна давялося мне быць у вясковай краме ў Козліках у Гайнаўскім павеце. Крама была перапоўнена маладымі п'янаватымі людзьмі. Яны абымалі маладую прадаўшчыцу Марысю, а яна, задаволеная, усміхалася. Хлопцы налівалі ў чайнік 4 бутэлькі віна, а Марыся падагравала яго на пліце і нічога супраць не мела, што папівон адбываецца ў краме. А гэта ўжо нядобра.

*Янка*

## САМАДЗЕЙНІКІ З СЕМЯНОЎКІ

9-га студзеня самадзейны калектыў у Семяноўцы (Гайнаўскі павет) пад мастацкім кіраўніцтвам Івана Шыманюка ў сваёй вёсцы выступіў з цікавай праграмай, у якую ўвайшлі беларускія, рускія і польскія песні, а таксама п'еса «Дзесяць гектараў». Прыбыло на пастаноўку каля 200 чалавек. Самадзейнікі з Семяноўкі прымуць удзел у аглядзе драмгурткоў, які арганізуе Беларускае таварыства.

*Віктар Бура, Гайнаўка*




*Дарагое Сэрцайка!*

Часта я бываю ў вёсках Бельшчыны, вядома, фэсты, забавы і іншыя сяброўскія сустрэчы. Часта сустракаю сімпатычных і прыгожых дзяўчат. Адна з іх мне вельмі спадабалася. Ёй толькі 14 год. Мне — 16. Аднойчы нават мы разам з ёй пайшлі ў кіно. Праз нейкі час яна прыслала мне пісьмо. Я хацеў адпісаць, але не было ў ім дакладнага адрасу, гэта значыць, не было напісана, з якой яна вёскі. Парай, як знайсці гэтую дзяўчыну.

*Міша з Гайнаўшчыны*

*Міша!* Кароткую, як кажуць, маеш памяць, калі так хутка забыўся, у якой вёсцы ты быў з дзяўчынай у кіно. Зрэшты, нічога дзіўнага, пішаш жа, што сустракаеш многа прыгожых і сімпатычных дзяўчат. Здаецца мне, што не варта табе шукаць дзяўчынкі, якая, пэўна, яшчэ вучыцца ў пачатковай школе і мае свае найважнейшыя абавязкі — вучобу. А тое, што прыслала табе пісьмо, дык не сведчыць аб гэтым, што ўжо чакае твайго адказу (не падала ж яна нават свайго адрасу). Мо дзяўчынка проста так, з ветлівасці, (была ж з табой у кіно) напісала табе пару слоў. Таму, хопіць, здаецца мне, час ад часу паглядзець на пісьмо ад мілай дзяўчынкі. Мо праз пару год, калі абое будзеце дарослымі, сустрэнецеся? А цяпер найлепш заняцца больш актуальнымі і важнейшымі для кожнага з вас справамі.

*Сэрцайка*

## ГУРТОК БГКТ У ТРАСЦЯНЦЫ

Гурток БГКТ у Трасцянцы Гайнаўскага павета налічвае 60 членаў. Яго старшынёй з'яўляецца мясцовая настаўніца Галіна Тапалянская.

Асноўнай працай гуртка з'яўляецца культурна-асветная дзейнасць. Пры гуртку ёсць харавая секцыя і драмгурток. Культурна-асветную працу ў гуртку вядзе мясцовая настаўніца Ніна Раманюк, якая адначасова з'яўляецца сакратаром ПОП у Трасцянцы.

Гурток БГКТ у Трасцянцы штогод выступае з беларускай праграмай у клубакавярні з нагоды розных гадавін і свят. Члены гуртка патрапяць дагаварыцца з усімі арганізацыямі ў Трасцянцы. Цесна супрацоўнічаюць яны з ЗМВ, ЛьЗС, гуртком вясковых гаспадынь і супрацьпажарнай камандай. У сувязі з 15-ай гадавінай БГКТ трасцянскі драмгурток рыхтуе дзве беларускія п'есы, некалькі скетчаў, беларускія і польскія песні. Гурток рыхтуецца да агляду драмгурткоў. На Дзень жанчын гурток БГКТ супольна з гуртком КГВ выступяць з мастацкай часткай у мясцовай клубакавярні. Варта падкрэсліць і тое, што старшыня гуртка Галіна Тапалянская належна спраўляецца са сваімі абавязкамі, і мы вельмі рады, што атрымала яна грашовую ўзнагароду Галоўнага праўлення БГКТ падчас нарады старшынь гурткоў.

*М. Лук'янюк*
*Гайнаўскі павет*

## ГАГАТУХА

Гагатухай называецца ў нас апошні вечар і ноч старога года. Называюць гэты вечар таксама багатым вечарам. Калі добра сцямнее, моладзь пачынае варажыць. Дзяўчаты вывярожваюць, якая з іх першая выйдзе замуж, а хлопцы — з якога боку возьмуць сабе жонку.

Каля поўначы ўсе разам збіраюцца, і тады пачынаюць выцягваць сані з панадворкаў у гаспадароў, знімаць і пераношваць у іншыя месцы платы. У гэты вечар усё дазволена. У нашай вёсцы таксама зацягнулі сані на высокія дрэвы і перанеслі плот з аднаго канца вёскі ў другі.

*Коля Міхалюк*
*Давідавічы*

## ЁЛКА

У святліцы ў Пяньках 10-га студзеня вучні пачатковай школы арганізавалі ёлку. На гэтую ўрачыстасць школьнікі падрыхтавалі цікавую праграму, якая працягвалася паўтары гадзіны. Асабліва падабалася ўсім інсцэнізацыя на беларускай мове пад загалоўкам «Бабуля». Пасля таго, як дзед Мароз раздаў падарункі, пачалася школьная забава. Школьная ўрачыстасць праходзіла пад чуллівым вокам кіраўніка школы Надзі Лінкевіч і бацькоўскага камітэта. (кл)

## МІКАЛАЙ ШАДУЯ



Мікалай Шадуя ад 1951 года працуе ў Цэнтралі асветных фільмаў «Фільмос» у Беластоку. Абслугоўвае ён 26 пачатковых школ. У месяц дэманструе 150 асветных фільмаў. У мінулым годзе паказаў ён 1500 асветных і 170 фабулярных фільмаў. А за 19 год сваёй працы абслужыў 28500 школьных лекцый, на якіх дэманстраваліся асветныя фільмы, паказаў таксама 3230 фабулярных фільмаў. Як сцвярджае Мікалай Шадуя, вялікай папулярнасцю карыстаюцца савецкія фільмы.

Гэты чалавек у рамах грамадскай працы кожны год вядзе спецыяльны курс для настаўнікаў і вучыць, як абслугоўваць фільмовыя апараты і як трэба іх кансерваваць. За добрую, сумленную працу многа разоў быў ён узнагароджаны дыпломамі, атрымліваў таксама грашовыя ўзнагароды. З'яўляецца ён таксама ахвярным дзеячом Беларускага таварыства ў Гайнаўскім павеце.

*Тэкст і фота*
*Віктар Бура,*
*Гайнаўка*

## ДАПАМОГА ЗВЯРАМ

У ваколіцы Заблудава дзейнічае гурток паляўнічых «Жбік». Стражнікам гэтага гуртка з'яўляецца адзін з паляўнічых, жыхар вёскі Гвозна, грамадзянін Аляксей Каменскі. Заданне стражніка — забіваць драпежнікаў, якія нішчаць дзіч, а таксама дакармляць звяр'ё ў зімовы час. Каменскі гэтыя абавязкі спаўняе як быць павінна. Нягледзячы на замець ці вялікія гурбы снегу ён дастаўляе ў кармушкі корм і гэтым самым ратуе звярыну ад галадоўкі. Каменскі вучыць школьнікаў змагацца з браканьерствам, а таксама дакармліваць звяроў, а перш за ўсё зайцаў, дзікіх коз, курапатак.

*Мікалай Краўчук, Патока*

---

прычынах. Рэзюме рашэнняў, прынятых на Тэгеранскай канферэнцыі, былі накіраваны англійскаму паслу. Гэта раскрыла намеры саюзнікаў, што датычалі палітычнага статута Германіі пасля яе паражэння і паказала нам, якія былі рознагалоссі паміж імі. Але яшчэ большая важнасць яго інфармацыі заключалася перш за ўсё ў тым, што ён прадставіў у наша распараджэнне дакладныя звесткі аб аператыўных планах праціўніка».

Між іншым, мяркуючы па ўсім, нацысцкія завадатаі не выкарысталі ў поўнай ступені гэтую неацэнную інфармацыю. З аднаго боку, яны сумняваліся: ці не падкінуты ім гэтыя дакументы англічанамі з мэтай дэзінфармацыі. З другога, разумеючы значэнне інфармацыі, атрыманай ад Цыцэрона, гітлераўцы баяліся расшырыць кола асоб, якія ведалі пра яе, каб не раскрыць крыніцы. Таму кіраўніцтва вермахта, як відаць, ніяк не выкарыстала гэтыя дакументы ў сваіх аператыўных распрацоўках, а магчыма, і наогул не ведала пра іх. Так ці інакш, ажыццёўленае на досвітку 6 чэрвеня 1944 года англа-амерыканскае ўварванне ў Нармандыі было для нямецкага камандавання нечаканасцю.

Пасля таго, як выйшла кніга Мойзіша, у англійскім парламенце было зроблена запытанне адносна ўцечкі да немцаў у час вайны зусім сакрэтнай інфармацыі з брытанскага пасольства ў Анкары.

Вось аб чым гаворыцца ў пратакольным запісу аб пасяджэнні палаты абшчын ад 18 кастрычніка 1950 года:

«Містэр Шэперд звярнуўся да міністра замежных спраў з запытаннем з прычыны паведамленняў аб тым, што вельмі сакрэтныя дакументы, якія датычалі аперацыі «Оверлард», былі ўкрадзены з нашага пасольства ў Турцыі і перададзены немцам. Містэр Шэперд спытаў, ці было зроблена расследаванне па гэтай справе, якія яго вынікі і якія меры прыняты для таго, каб прадухіліць паўтарэнне такіх выпадкаў.

Містэр Бевін (міністр замежных спраў лейбарысцкага ўрада, які знаходзіўся тады на чале ўлады, В. Б.) адказаў, што ніякія дакументы фактычна не былі ўкрадзены ў час вайны з пасольства яго вялікасці. Але следства па справе паказала, што камердынер пасля сфатаграфаваў у пасольстве некалькі сакрэтных дакументаў асаблівай важнасці і прадаў плёнку немцам. Ён не здолеў бы зрабіць гэтага, калі б пасол прытрымліваўся існуючых правілаў захоўвання сакрэтных дакументаў. Пасля гэтага выпадку ўсім тым, каго гэта датычыла, былі накіраваны новыя інструкцыі і прыняты іншыя меры з мэтай прадухіліць паўтарэнне такіх выпадкаў.

«Містэр Шэперд зазначыў, што заява, апублікаваная ў кнізе Мойзіша па гэтаму пытанню, выклікала вялікі непакой у нашым грамадстве. І калі планы, якія датычылі аперацыі «Оверлард», фактычна не былі ўкрадзены, то чаму ў такім разе міністэрства замежных спраў не апублікавала абвяржэння гэтай заявы?

Містэр Бевін зноў падкрэсліў, што дакументы не былі ўкрадзены. Іх сфатаграфавалі, а гэта, урэшце, адно і тое».

Такім чынам факт атрымання гітлераўцамі звыш сакрэтных дакументаў, у тым ліку і важных рашэнняў Тэгеранскай канферэнцыі, быў афіцыяльна пацверджан Лонданам.

*(Працяг будзе)*

---

# КІНО

### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**КЛЯШЧЭЛІ**

„Grymasy" (węgierski), 9—10. „Gdy miłość przemija" (jugosł.), 11—12. „I znów z tobą" (węgierski), 13—14.

**НАРАЎКА**

„Powrót rewolwerowca" (USA), „Zbyszek" (polski), 10—14.

**НАРВА**

„Szlacheckie gniazdo" (radz.), „Polowanie na muchy" (polski), 10—14.

**ЧЫЖЫ**

„Gra" (polski), „Zabawa w masakrę" (franc.), 10—14.

**ДУБІЧЫ ЦАРКОЎНЫЯ**

„Ostatni watażka" (bułg.), „Profesor zbrodni" (węgierski), 10—14.

**АРЭШКАВА**

„Dzień oczyszczenia" (polski), „Królewski błąd" (czeski), 10—14.

### БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**БОЦЬКІ**

„Nie drażnić cioci Leontyny" (franc.), „Ostatni świadek" (polski), 10—14.

**ОРЛЯ**

„Hugo i Józefina" (szwedzki), „Raj na ziemi" (polski), 10—14.

**РАЙСК**

„Nie ma powrotu Johny" (polski), „Operacja Belgrad" (jugosłowiański), 10—14.

### БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ

**МІХАЛОВА**

„Miłosne kłopoty" (radz.), 9—10. „Wyzwanie dla Robin Hooda" (ang.), 11—12. „Jarzębina czerwona" (polski), 13—14.

### САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**КРЫНКІ**

„Kopciuszek w potrzasku" (franc.), 9—10. „Największe widowisko świata" (USA), 11—12. „Labirynt miłości" (radz.), 10—14.

**ЯНАЎ**

„Dziura w niebie" (polski), 10—14.

### СЯМЯЦЦКІ ПАВЕТ

**НУРЭЦ**

„Dialog" (węgierski), 9—10. „Niezawodni przyjaciele" (rumuński), 11—12. „Jarzębina czerwona" (polski), 13—14.

**МЕЛЬНІК**

„Mam 20 lat" (radz.), 9—10. „Skowronek" (węgierski), 11—12. „Gang Olsena" (duński), 13—14.

**МІЛЕЙЧЫЦЫ**

„Oddział Turbaczowa" (radz.), 9—10. „Na los szczęścia Baltazarze" (franc.), 11—12. „Gang Olsena" (duński), 13—14.

### ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ

**СУХАВОЛЯ**

„Twarz anioła" (polski), „Co wieczór o 11-ej" (radz.), 10—14.

**НОВЫ ДВОР**

„Album polski" (polski), „Czekam w Monte Carlo" (polski), 10—14.

Ніва

Adres redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1. Telefony: red. naczelny 2-10-33, centrala 2-32-41 do 45. Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2,40 zł, kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie — 14,40 zł, rocznie — 28,80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch" Nr 103-7-161 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Zamówienia za zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa ul. Wronia 23. Nr konta PKO 1-6-100024. Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wronia 23.

BZGraf. Nakład 7000 E-3



ГУМАР З БАРАДОЙ

# ● ЧЫЙ ГУСАК? ●

Мужык і цыган знайшлі на дарозе смажанага гусака. Мужык першы схапіў гусака.

— Мой гусак!! — крычыць цыган, — я першы яго ўбачыў.

— Не, мой, — пярэчыць мужык, — я першы яго падняў.

Доўга яны спрачаліся, чый гусак, бо ні мужык, ні цыган не хацелі дзяліць яго папалам.

Тады цыган і кажа:

— Каму першы сон прысніцца, таго і гусак будзе.

Мужык пагадзіўся.

Цыган лёг, заплюшчыў вочы, прыкінуўся, што спіць.

— Доўга мужык варочаўся з боку на бок: прыдумляў сон. Нарэшце заснуў.

Тады цыган ціхенька падняўся, спытляваў гусака і лёг спаць.

Раніцою яны прачнуліся.

— Ну, расказвай, браток, што табе снілася, — кажа цыган да мужыка.

— Снілася мне, — пачаў мужык, — што трапіў я да князя ў госці. У вялізным палацы стаяў вялікі, вялікі стол. А на тым стале чаго толькі не было! Сеў я з князем за стол. З'елі мы па гусаку, па курыцы... Ды ўсяго іншага... А цяпер раскажы, што табе снілася, — звярнуўся мужык да цыгана.

— Прыснілася мне, — пачаў цыган, — што ішоў, ішоў я па дарозе і дайшоў да краю зямлі... Бачу — лесвіца стаіць. Палез на лесвіцы. Узлез на самае неба. Іду сабе па небе, іду... Бачу — на дубовым пнянку твой бацька сядзіць і ўмінае смажанага гусака. Дзядзька, папрасіў я, дай беднаму цыгану хоць лапку пасмактаць. Як накінуўся на мяне твой бацька. «Свайго смажанага гусака маеш, — крычыць, — і майго яшчэ хочаш з'есці! Спачатку свайго з'еш, а пасля ў мяне прасіць будзеш!» Паслухаўся я твайго бацькі, хуценька вярнуўся на зямлю і з'еў гусака.

Мужык хапіўся гусака, а ад таго і лапкі не засталося — усё цыган утаптаў.



— Ты гатовы растаць перад кожнай жанчынай!...

# НІЎКА

ДЗЕЦІ І ТАТА

— Тата, каго бяруць у космас — моцных ці слабых?

— Моцных.

— Выходзіць, ты слабы, тата?

* * *

Трохгадовая Аленка цалуе тату:

— Ты чаму такі калючы? Шчотку праглынуў?

* * *

— Калі б я быў чараўніком, я зрабіў бы шмат качак, каб тата не хадзіў на паляванне.

* * *

Тата ў ад'ездзе.

— Мама, ты сумуеш па тату? Я таксама. Хто ж нам цяпер дапаможа памыць бялізну?

Талаваломка



Фігуру нарысуйце адной бесперапыннай лініяй, не адрываючы алоўка ад паперы.

* * *

*Адказ на заданне з папярэдняга нумара:*



СПЕЦЫЯЛІСТ

Нейкі Альфонс сабраў некалькі мільёнаў лір ад наіўных людзей, якім выдаваў сябе за спецыяліста па лячэнню азіяцкага грыпу. Урэшце паліцыі ўдалося яго арыштаваць: Альфонс ляжаў у ложку хворы на азіяцкі грып.

ПАХВАЛІЎ

Жонка вярнулася з гасцей і расказвае мужу:

— Вечар прайшоў цудоўна. Пятровічы папрасілі мяне заспяваць, і я згадзілася. Заспявала ім раманс.

— Добра зрабіла, — пахваліў муж. — Не выношу гэтых Пятровічаў.

ПАМІДОРЫ

У магазіне гароднiны з'явіўся дзіўны наведвальнік, які пажадаў скупіць усе гнілыя памідоры.

— Вы, відаць, збіраецеся закідаць імі таго нягодніка з прыезджага тэатра, які асмеліўся іграць Рамэо? — усміхнуўся гаспадар і пачуў пануры адказ:

— Гэта я і ёсць.

СУСЕДЗІ

Жывуць анёламі: не кураць,
У рот ні кроплі не бяруць.
І галаву заўсёды дураць,
Паслухай іх — дык не ядуць.

І там, дзе трэба развярнуцца,
Сказаць: «Я больш не пацярплю!»,
То не стаяць яны, а гнуцца,
Схаваўшы вочы у зямлю.

Іх галасок — салодкі, мілы,
Ну, хоць да ранкі прыкладай!
Здаецца, дай такім вось крылы
І паляцяць адразу ў рай.

*Анатоль Сербантовіч*

— *Пятрусь, кажуць, што жонка цябе б'е?*

— *Гэта подлая выдумка — я заўсёды паспяваю ўцячы...*

ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

По просьбе Валі Гаўрылюк і сябровак з Бельска змяшчаем песню:

## Восемнадцать лет

Стихи В. Застожного,
Музыка О. Гришина

За рекой, за лесом
Солнышко садится,
Что-то мне, подружки,
Дома не сидится.
Сладкая истома,
Черёмухи цвет.
Усидишь ли дома
В восемнадцать лет?

Звездочки-росинки
На лугах мерцают.
Сердце ждет чего-то,
Бьётся, замирает.
Шорохи ночные,
Мягкий лунный свет.
Зори золотые.
Восемнадцать лет.

Паренек кудрявый
Прошептал три слова
И увел девчонку
От крыльца родного.
Мята луговая
Уронила цвет.
Радость молодая
В восемнадцать лет.

За рекой, за лесом
Солнышко садится.
Мне теперь, подружки,
Дома не сидится.
С ветки облетает
Черёмухи цвет.
В жизни раз бывает
Восемнадцать лет.





*Нягледзячы на грознае папярэджанне...*

ДОБРАЯ ПАСЛУГА

Пад маладой ёлкай, дзе заяц зрабіў сабе логвішча, раздаўся тэлефонны званок.

— Алло, гавораць з «Бюро добрых паслуг». Вы заказвалі арэхі? Дык вось, мы не ведаем: падсмажыць іх вам ці прыслаць у сырым выглядзе?

— Вы, напэўна, памыліліся і замест вавёркі патэлефанавалі мне. Я заказваў кілаграм морквы.

— Выбачайце.

Праз нейкі час зноў зазваніў тэлефон.

— Алло, мы з «Добрых паслуг». Вы прасілі даставіць ячменныя зёрны. Вам іх памалоць?

— Вы набралі не гэты нумар. Звяніце хоміку. Я заказваў...

— Прабачце, мне няма калі размаўляць. Я вельмі заняты.

Зноў званок.

— Алло, вас непакоіць «Добрыя паслугі». Вы заказвалі тушанага зайца, нашпігаванага часнаком і свіным салам. Выкананне заказа крыху затрымліваецца. Зараз паляўнічыя знайшлі па слядах заячае логавішча і акружылі яго з усіх бакоў.

З зайцам здарыўся разрыў сэрца.

*М. Сямёнаў*

ПАШАНЦАВАЛА

Дзяніс Каробачка расказваў, як ён незнарок упаў у яму і праляжаў там усю ноч. Аж раніцай яго прыкмецілі.

— І астаўся цэлым, непашкоджаным? — спытаў я Каробачку.

— Уяві сабе, мне пашанцавала — партманет з грашыма астаўся пры мне. Праўда, зламаў нагу. Ды гэта — дробязь. Да вяселля зажыве.

НЕЗАДАВОЛЕНЫ

— Ці задаволены ты сваім новым настаўнікам па гісторыі?

— Не вельмі, тата. Ён не ведае простых рэчаў, бо ўвесь час пытаецца ў нас.

У ТУРМЕ

У камеру смяротнікаў у Сінг-Сінгу ўваходзіць наглядчык.

— Паслухайце, — звяртаецца ён да прысуджанага на смерць, — заўтра перад тым, як пасадзіць вас на электрычнае крэсла, у вас спытаюць, якое ваша апошняе жаданне.

— Так, ну і што?

— Вам жа ўсё роўна, дык папрасіце, каб мне павысілі плату.

ВЫВАД

Адзін прыяцель аб другім:

— Ты прыкмеціў, як ён пастарэў? Цяпер ён спачатку разглядае меню, а затым ужо афіцыянтку.

ДАКЛАДНА

— Шчыра гаворачы, — кажа маладая жанчына свайму знаёмаму, — за ўсё сваё жыццё я схлусіла ўсяго толькі тры разы.

— Разам з гэтым — чатыры.

РАЗАБРАЎСЯ

Апенька прыйшла да загадчыка лясной гаспадаркі наконт жылля:

— Надакучыла ў сырасці — пад дажджом мокну...

— Чаго захацела! У цябе ж ёсць дах над галавой.



# Курёзы

КОНСКІЯ БАСАНОЖКІ

Не, гэта зусім не выдумкі дзівакоў. Такі незвычайны абутак выкарыстоўваецца ў польскім сяле Клюкі, дзе жыве маленькая славянская народнасць — славінцы. Як і іншыя, конскія басаножкі вельмі простыя: бярэзца плоскае драўлянае кола, рамяні са спражкамі — і конь абуты. Зразумела, знешне гэтыя басаножкі — а дакладней, «басакапыткі» — маюць не вельмі прывабны выгляд, але затое ў час ворыва коні ў іх не правальваюцца нават на балоцістай глебе. Самае дзіўнае — коні настолькі прывыклі да свайго абутку, што «босыя» наогул ні за што не выйдуць у поле.

ТРАМВАЙ НАПРАКАТ

У аўстралійскім горадзе Мельбурне для наладжвання розных сямейных падзей (вяселле, хрысціны, пахаванне і г.д.) транспартныя кампаніі выдаюць напракат цэлы трамвай. Зразумела, разам з вагонаважатым.

ЭФЕКТНЫ СПОСАБ

Эфектны спосаб забойства вынайдзен у ЗША — у аўтамабіль кладуць бомбу, якая ўзрываецца, як толькі ўладальнік машыны ўключае стартэр.

Гэты спосаб атрымаў такое вялікае пашырэнне, што адна амерыканская фірма пачала выпускаць прыбор — «дыстанцыйны стартэр». З яго дапамогай можна завесці матор, знаходзячыся на бяспечнай адлегласці ад аўтамабіля.

РЭДКАЯ ДРУЖБА

Рэдкая дружба завязалася паміж белай мышшу Юніяй і лабрадорцам Кэндзі з Марэт-Дрэйтана (Англія). Дзякуючы старанней апеды сабакі мыш не мела ніякіх клопатаў: харч ёй заўсёды забяспечан, а кошкі цяпер і не рызыкуюць падыходзіць да яе блізка.




*Самы вялікі слон той, які зроблены з мухі.*